Год VII. Люты № 2 (75).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

## ЗЬМЕСТ № 2:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл. на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Люты 1935 г. | № 2 (75). |
|---|---|---|

* * *

Нізка схіліліcь пад сьнегам бярозы,
Белая наквець на сонцы гарыць.
Ўся Беларусь у задуме прыгожай
Быццам заснуўшай пад сьнегам ляжыць.

Тыя знаёмыя здаўна трывогі,
Зноў аджываюць у сэрцы маім.
Сьнегам пакрытыя сьцежкі, дарогі
Зноў мяне клічуць прасторам сваім.

Кіну маркоту... І знова вясёлым,
З песьняй зьвінячай ў вандроўку пушчусь,
Зноў прывітаю вас вёскі і сёлы,
Зноў засьпяваю Табе — Беларусь!

* * *

Няхай зіма зьвінячым сьнегам
Ляціць і скачыць і пяе.
Ў грудзёх ізноў-жа буры сьмеху
І ў скорым рытме сэрца б'е.

Ня страх, што сьцежкі і дарогі,
Сьняжком пушыстым занясе.
Ідзём наперад бяз трывогі
І пратопчам ізноў усе.

Нястрашны нам на'т дзень сьцюдзёны,
Агонь юнацкі сэрцы плавіць.
І зьмест наш шэры і будзённы
Вясёлай песьняй будзем славіць.

**М. Машара.**

* * *

Бурляць і ймкнуцца няўпынныя думкі
І грудзі трывожныя раняць мячом;
Ні дзень іх ня стушыць у сонца ірдзеньні,
Ні ноч іх ня скрые пад чорным крылом.

Ляціце-ж, ляціце, вы думкі, як стрэлы!
Забудзьце ў імкненьні аб долі ліхой!
Нясіцесь з віхрамі па полі шырокім,
Спыніцесь ціхенька пад роднай страхой.

**А. Бярозка.**

Ад. Станкевіч. 11)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## VIII. Нацыянальны элемэнт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы.

### § 1. Фр. Багушэвіч.

Разважаныя намі дагэтуль кірункі палітычнага вызваленьня беларускага народу ня мелі аднэй, дужа важнай прыкметы — гэта: беларускага нацыянальнага пачуцьця. Праўда, кірункі гэныя імкнуліся да здабыцьця для беларускага народу правоў грамадзка-палітычных, але правоў гэтых яшчэ яны ня думалі ставіць на аснове беларускай нацыянальнасьці, на асновах беларускіх, самастойных. Яшчэ гэткай сьведамасьці ня было ані ў Каліноўскага, ані ў Грынявіцкага, ані ў тых беларускіх народнікаў, што гуртаваліся каля „Гоману".

Каліноўскі бароўся за грамадзкія і палітычныя правы беларускага народу, але правы гэтыя бачыў не ў асобнай, не ў нацыянальнальнай самастойнасьці гэтага народу на ягоных землях, але ў палітычнай самастойнасьці разам усіх народаў зямель бышага Вялікага Княства Літоўскага, а да таго, — хоць свабодна і лёзна, — але злучаных фэдэрацыйна з Польшчай.

Узноў-жа Грынявіцкі, як мы бачылі, вырастаў ужо з гэткай ідэолёгіі, пакідаў яе; ён, праўда, яшчэ аднэй нагой стаяў на грунце палітычнага сьветагляду Каліноўскага, але за тое другой стаяў ужо на грунце новым, на грунце „Гоману". Але ані Грынявіцкі, ані „Гоман" у барацьбе сваей за палітычнае вызваленьне беларускага народу прынцыпу беларускай нацыянальнасьці яшчэ ня ўводзіць. У „Гомане", як памятаем, ужо нічога не спатыкаем, што наводзіла-б нас на ўспамін Вял. Кн. Літоўскага, а проста ў ім гаворыцца аб Беларусі і аб беларускім народзе. І гэтым „Гоман" бліжэй да беларускага народу, як „Muž. Prauda". Але прынцыпу беларускай нацыянальнасьці, на якой можна будаваць беларускую волю і долю, „Гоман" яшчэ так-жа ў сабе ня мае. Праўда, гоманцам, хоць яны парасейску пішуць свой часапіс, іхныя таварышы маскалі закідаюць, што яны сэпаратысты, але яны горача ад гэтага бароняцца і даказваюць, што ад Расеі цалкам аддзяляцца ня думаюць, бо стаяць за Беларусь у фэдэрацыі з Расеяй і што справа беларускай нацыянальнасьці агулам і беларускай нацыянальнай культуры — гэта справа можа якіх аматараў, а не паважных палітычных дзеячоў. І тут, як бачым, сьведамасьці беларускага нацыянальнага прынцыпу, на якім трэба было-б будаваць самастойнасьць Беларусі, яшчэ нямашака.

Вось-жа, у параўнаньні з беларускімі народнікамі часу Каліноўскага і часу гоманцаў, у справе беларускай агулам, а гэтым самым і ў справе беларускай палітычна-вызвольнай думкі, важны і рашучы робіць шаг наперад Фр. Багушэвіч. Гэты ягоны шаг мае пераломнае і прынцыповае значэньне.

Жадаючых бліжэй пазнаёміцца з Багушэвічам, адсылаю да маей аб ім кніжыцы[1]); тут-жа пастараюся ў кароткіх словах сказаць аб гэтым вялікім беларусе тое, што дагэтуль аб ім ня было ведама і што беспасрэдна адносіцца да гэтай маей працы.

Радзіўся Фр. Багушэвіч у 1840 г., але не ў Кушлянах, Ашмянскага пав., як дагэтуль думалася, а ў Сьвіранах, Сьвянцянскага пав. Скончыў праўны Ліцэй у Нежыне, займаў праўныя пасады ў глыбі Расеі, а каля 1884 г. асеў настала ў Вільні і займаўся адвакатурай пераважна сярод беларускага сялянства. Працаваў так-жа нямала пяром. Пладом гэтай працы, апрача шырока ведамых „Дудкі" і „Смыка" і апрача дагэтуль нядрукаваных: „Скрыпкі" і „Тралялёначкі", меў так-жа быць беларускі слоўнік, для якога Багушэвіч быў назьбіраўшы шмат матар'ялу[2]). На вялікі жаль, гэны багаты матар'ял, сабраны Багушэвічам да беларускага слоўніка, як і іншыя яго розныя матар'ялы і дакумэнты, відаць, прапалі ў дзяцей яго, ці мо' зайздросна хаваюцца імі дзе ў куфры ад беларусаў, да якіх адносіны іх цалком іншыя, як іх вялікага ў беларускім адраджэньні бацькі.

Адносіны-ж гэтыя Багушэвіча да справы беларускай сапраўды асаблівыя. Справе гэтай ён уліў душу беларускую, бо ён першы надаў ёй беларускі нацыянальны характар у сучасным разуменьні. Праўда, Багушэвіч увёў гэты беларускі нацыянальны прынцып у літаратуру, бо-ж ніякай беларускай палітыкай ён не займаўся, аднак значэньне гэнага яго нацыянальнага прынцыпу так вялікае і шырокае, што адносіцца яно да ўсяго беларускага адраджэньня, а знача і да справы палітычнага вызваленьня беларускага народу.

---

1) Ad. Stankiewič — Franciš Bahuševič, jaho žyccio i tvorčaść. U tryccatyja ŭhodki śmierci (1900—1930). Wilnia, 1930.

2) „św. pam. Franciszek Bohuszewicz, dydaktyczny wierszopis białoruski, literat, ludoznawca, filantrop, ziemianin z gubernii Wileńskiej, urodził się w Swiranach w roku 1840, nauki gimnazyalne pobierał w Wilnie, z kolei studjował matematykę i przyrodnictwo we wszechnicy petersburckiej, wreszcie skończywszy świetnie liceum prawnicze w Nieżynie zajmował posady rządowe w głębi cesarstwa, a około roku 1884 osiadł w Wilnie na stałe i trudnił się adwokaturą, przeważnie w sferze ludu, dla którego mając szczególną miłość bratnią, poświęcał swe wytrawne pióro. Owocem tej pracy były gawędy: „Dudka" pod pseudonimem Macieja Buraczka, „Smyk" pod pseudonimem Szymona Reuki i „Tralalonoczka". Miał też wydać poemat „Skrypka" i inne rzeczy, a głównie „Słownik białoruski", do czego zgromadzał obszerny materyał; lecz siły, wyczerpane pracą, nie dopisały i po ciężkich cierpieniach zgasł w Bogu 18 kwietnia 1900 r. w rodzinnym folwareczku Kuszlanach (powiat Oszmiański), pochowany na cmentarzu parafialnym w Żupranach przy wielkiem zebraniu opłakującego go ludu i licznego obywatelstwa. Aleksander Jelski."

(Kalendarz 1902. R.-K. T-wo Dobroczynności w Petersburgu).

Цэнную гэту вестку аб Багушэвічу, узятую з успомненага календара, даў мне Кс. Ул. Талочка, за што яму выражаю тут падзяку. (А. С.).

Дык прыгледзімся-ж бліжэй, у чым для нас асаблівае значэньне Багушэвіча. А вось у чым. Праўда, гадоў бязмала сто прад Багушэвічам, ужо паявілася першая ластаўка беларускай літаратуры ў жывой мове народу, якой была «Энэіда". Пасьля гэтага пабеларуску пісаў Паўлюк Бахрым, паявіўся беларускі літаратурны твор „Тарас на Парнасе", пісалі пабеларуску Баршчэўскі, Рыпінскі, Чэчат, Каліноўскі, Дунін-Марцінкевіч і інш. Але ў творах гэтых, пісаных сучаснай беларускай мовай, спатыкаем то жарты з беларуса, то навуковыя разважаньні над беларусам, над яго бытам і мовай, то спагадлівасьць беларусу ў яго цяжкім жыцьці то ўрэшце некаторыя з твораў гэных прадстаўляюцца нам, як творы беларускага прыгожага пісьменства, але ня было, ў іх аднаго найважнейшага — гэта сьвядомага беларускага нацыянальнага пачуцьця. Гэтую часьціну, цалком прынцыповую, істотную для нас, увёў у беларускую літаратуру і агулам у беларускі адраджэнскі рух — Фр. Багушэвіч. А даканаў ён гэтага першы, у сваей слаўнай прадмове да „Дудкі" і часткова да „Смыка", зварачваючы ўвагу нашага народу на тое, што ён беларускі народ, асобны ад іншых, бо беларуская яго мова і той край, дзе жыве ён, так-жа Беларусяй завецца. Да новага, да сьведама-нацыянальнага жыцьця клікаў Багушэвіч беларускі народ, намаўляючы яго трымацца пры гэтым роднай беларускай мовы, як душы нацыянальнай, як азнакі жыцьця народу. «Шмат было такіх народаў — кажа Багушэвіч у прадмове да «Дудкі», — што страцілі найперш мову сваю, — так як той чалавек прад скананьнем, катораму мову займе, — а потым зусім замёрлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!». Знача, мову беларускую, як той сродак, праз які можна абудзіць увесь беларускі народ да нацыянальнага жыцьця, Багушэвіч ацаніў належна. Такім чынам Багушэвіч сваім літаратурным творствам, якое мае на мэце усебаковае духовае і матар'яльнае адраджэньне беларускага народу, „кладзе магутны камень пад рух беларускі і зьяўляецца духоўным бацькам беларускага адраджэньня. Ён — першы ўсенародны беларускі правадыр і першы беларускі нацыянальны пясьняр рэвалюцыянэр"[1]). „Першае сапраўднае выяўленьне беларускае ідэі — кажа Ал. Цьвікевіч, — і сьвядомае зацьверджаньне яе, як ідэі не провінцыяльна-польскай і не провінцыяльна-расейскай, а самастойнай, незалежнай ад таго ці другога боку, адносіцца да дзейнасьці Фр. Багушэвіча"[2]).

Зварачваючы такім чынам у сваей літаратурнай творчасьці ўвагу беларускага народу на яго нацыянальнасьць, на яго нацыянальную культуру і родную мову, а так-жа

1) М. Гарэцкі—Гіст. Бел. Літаратуры. Вільня. 1920. (Гл. разьдзел аб Багушэвічу).

2) А. Цьвікевіч — „Западно-Руссизм". Менск 1929. Бач. 184—187.

і на яго цяжкое социяльнае палажэньне, рознае ад пануючых клясаў і ўрадоўцаў чужынцаў, Багушэвіч гэтым самым і справу палітычнага вызваленьня беларускага народу ськіваваў на новы, ужо сапраўды беларускі нацыянальны шлях. Фр. Багушэвіч скончыў назаўсёды з беларуска-польскім народніцтвам Каліноўскага і з народніцтвам беларуска-расейскім гоманцаў, а пачаў і стварыў народніцтва беларускае нацыянальнае[1]) і паказаў самастойныя дарогі беларускага нацыянальнага адраджэньня агулам і нацыянальна-палітычнага вызваленьня.

---

## § 2. Адам Гурыновіч.

Першым і годным спадкабернікам беларускага нацыянальнага народніцтва па Ф. Багушэвічу, а так-жа далейшым колцам у ланцугу беларускай палітычна-вызвольнай думкі, быў Адам Гурыновіч. Пазнаёмімся з ім крыху бліжэй.

Радзіўся ў 1869 г. у двары сваей маткі Кавалёх, Вялейскага пав. Бацька яго — беларускі апалячаны шляхціц, а матка — полька. Дом Гурыновічаў авеены быў лібэралізмам і дэмократызмам. Вучыўся малады Адам сьпярша дома, а пасьля ў віленскай рэальнай гімназіі, па сканчэньні якой уступіў у Пецярбурскі Тэхнолёгічны Інстытут. Пайшоў ён, як бачым, шукаючы навукі, па тэй-жа дарозе, што і Ігнат Грынявіцкі. І той, як памятаем, сьпярша беластоцкі рэаліст, а пасьля пецярбурскі студэнт-тэхнолёг. У Інстытуце Гурыновіч спэцыяльна займаўся справай палепшаньня паравозаў. У гэтым кірунку быў ён быццам ужо на дарозе да важных і цікаўных навуковых вынаходаў. На жаль, навуковыя яго рукапісы разам з часьцяй іншай літаратуры, зьнішчаны перад адным з паліцэйскіх вобыскаў.

У 1893 г. за прыналежнасьць да рэволюцыйнага руху, за праводжаньне ідэяў беларускага нацыянальнага народніцтва, Гурыновіча расейскія царскія ўлады арыштавалі. Здарылася гэта ў Вільні, у ўласным Гурыновічаў доме, пры вул. Пірамонт № 22. Пагоршылася справа, калі сярод яго папераў паліцыя знайшла напісаны Гурыновічам беларускі верш, у якім ён кліча беларускі народ прачнуцца і сьпінуць з сябе царскае ярмо. Арыштаваны Гурыновіч апынуўся ў Петрапаўлаўскай крэпасьці ў Пецярбурзе, у якой, прабыўшы блізка год, моцна заняпаў на здароўі; дзеля гэтага быў звольнены пад надзор паліцыі ў двор свайго бацькі, Крыстынополь, Сьвянцянскага пав., дзе пасьля колькі дзён захвароў на чорную воспу, прывезеную з паўночнай сталіцы, і памёр 14-га студня 1894 г. Паліцыя зорка сачыла Гуры-

[1]) „...Идеологом освобождения Белоруссии через национально-культурное самоопределение белоруссов и родоначальником новейшей белорусской литературы явился сын бедного шляхтича Богушевич“... (Мал. Сов. Энц 1930 т. I. Белоруссия).

новіча, ня верачы, што памёр. І толькі матка Адама, як цьвердзяць сваякі ягоныя, пераканала паліцыю, паказываючы на нябошчыка, як на ахвяру паліцэйскага і царскага прасьледу. Пахаваны Гурыновіч у Крыстынопалі, у фамілійных грабніцах.

Яшчэ ў апошняй хвіліне свайго жыцьця, маючы надзею перамагчы страшэнную хваробу, снаваў Г-ч пляны будучае працы на ніве роднага краю, з думкаю будзіць і клікаць да жыцьця беларускі народ.

Гурыновіч пісаў пабеларуску вершам і прозай, перакладаў на беларускую мову вершы і прозу польскіх і расейскіх пісьменьнікаў, а так-жа зьбіраў беларускія этнографічныя матар'ялы. Частка літаратурнай спадчыны яго знаходзіцца ў Беларускім Музэі ў Вільні, а асабістая карэспандэнцыя знаходзіцца ў сваякоў Гурыновіча[1]).

Шкада, што літаратурная спадчына Гурыновіча так доўга марынуецца ў Бел. Музэі ў Вільні. Выданая друкам' яна ў значнай меры прыслужылася-б да ярчэйшага асьвятленьня асобы аўтара, як барацьбіта за беларускае нацыянальна-палітычнае вызваленьне згодна з думкай Багушэвіча. Аднак і з тых твораў Гурыновіча, якія ўжо надрукаваны, відаць выразна, што ён — гэта сапраўды ідэовы наступнік Багушэвіча, цалком пераняўшы яго думкі аб беларускім нацыянальным вызваленьні.

Гісторык беларускай літаратуры М. Гарэцкі цьвердзіць[2]), што Ад. Гурыновіч належыў да складу рэдакцыі „Гоману". А з гэтага сам сабой напрашваецца вывад, што апрача Багушэвіча, меў на яго ўплыў так-жа і „Гомон". Вось-жа да рэдакцыі „Гоману" Гурыновіч належыць ня мог, бо меў тады толькі 15 гадоў, але мог ён спатыкацца з гэным часапісам, тайна пашыраным, і сапраўды мог гэтак паддавацца яго ўплыву. Сусім магчыма, што Гурыновіч стаўся народавольцам дзякуючы „Гоману" і тым беларусам народавольцам, што каля „Гоману" групаваліся. Але той факт, што Гурыновіч быў ужо ня толькі народавольцам-гоманцам, але прадусім беларускім **нацыянальным** народавольцам,— гэта ўжо заслуга Багушэвіча.

Аб тым, што Гурыновіч сапраўды быў беларускім народавольцам, які ўжо апіраў сваё народавольства на прынцыпе беларускай нацыянальнасьці, сьведчыць выразна вось гэты ягоны верш „Да Мацея Бурачка":

„Дзякуй табе, браце Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З каючым сэрцам і баляшчай грудзяй.

1) Усе паданыя вышэй весткі аб Ад. Гурыновічу зачэрпнуты з наступных крыніц: „Бел. Звон" № 3. 1921 г., „Бел. Крыніца" № 12, 1934, „Шлях Моладзі" № 3, 1934 і „Калосьсе" кн. 1, 1935.

2) М. Гарэцкі — Гіст. бел. літаратуры. Менск, 1924, бач. 247.

Дзякуй табе. браце, і за тые словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песьнь смутная ідзе ў калейку
І будзіць у сэрцах мысьль аб лепшай далі,
Якой мы ня знаді да гэтуль ніколі".

Шмат так-жа ў гэтым сэнсе дае нам сьвятла і другі, сьціраваны да беларуса верш Гурыновіча „Што ты сьпіш мужычок". Тут заклікае аўтар „мужыка", за прыкладам іншых такіх-жа „мужыкоў", устаць, глянуць на сябе і запытацца: хто ён, хто такі?

Наракае ў тым-жа вершы Гурыновіч на маскоўскага цара за ягоныя чужацкія „Букі-азы", якіх прыказаў вучыць беларусаў „бярозкай":

„Хаця скрось настаўляў
Вучылішч, гдзе вёска
„Букі-аз" — наказаў
Навучаць бярозкай;

А роднога слаўца
Ніхто і ня чуіць,
Толькі так малайца
Саўсім ён сапсуіць".

А ў вершы „Што за звук ды так громка раздаўся" — кажа Гурыновіч, што „звук" — гэта стогн, і што

„...гэты стогн быць ня можа,
Каб з грудзі ён выходзіў аднэй, —
То ўвесь наш народ гэтак стогне
Над няшчаснаю доляй сваей".[1])

Ясна такім чынам, што Адам Гурыновіч — гэта верны пасьлядоўнік Багушэвіча, гэта беларускі палітычны вызваленец, які волю і долю беларускага народу за прыкладам Багушэвіча бачыць у развою прынцыпу беларускай нацыянальнасьці.

---

## РОДНЫЯ ГОНІ.

Родныя гоні — гаротныя гоні!
Моцна, ох, моцненька з вамі я зжыўся,
Што і за скарбы ніхто не прагоне
З мілых куточкаў, дзе рос я й радзіўся...

Хоць іх шырокая рэчка пакрыла,
Рэчка сьлёз горкіх і поту ліхога —
Ўсё-ж на іх люба і ўсё мне так міла,
Што не хачу я мець шчасьця чужога!

**Алесь Адзінокі.**

---

1) Усе тры ўспомненыя вершы надрукаваны ў „Бел. Зване" № 3, 1921.

# Da čaho davodzić harełka.

Kimiany, Ašmianskaha pav. Nia tak daŭna, u niadzielu, žychar našaj vioski, małady dziaciuk Piatkievič, ułažyŭšy ŭ chacie novuju padłohu, zachacieŭ zrabić viečarynu. Paklikaŭ jon muzykanta, zaprasiŭ usich viaskovych dziaŭčat i chłapcoŭ i ŭsio zdajecca było dobra. Usie hulali, było vielmi viesieła, ale nie na doŭha. Bo voś, jak tolki paniuchali našy chłopcy harełki, dyk i začali pakrychu začaplacca i vykidać vyšej nahami. A paśla davaj bracca i za kały, a chutka papłyła i kroŭ, bo nie adnamu dastałosia pa haławie. Bili adnak nia tolki pa hałovach. Pabili lampu, pabili šyby, a paśla dyk vokny z ramami pavyryvali. Paśla takoj bojki chatu trudna było i paznać.

Voś jak hulaje i dziakuje za chatu ŭ nas moładź! Styd i hańba! Blizki.

**м-ка Астрына**, Шчучынскага пав. Наша моладзь задумала наладзіць спатканьне Новага 1935 году. Для яе, ясна, самае галоўнае гэта забава, якую і пастараліся зрабіць. Бязумоўна, што забавіцца часамі нават і добра, але ў нас гэтак нажаль ня было, бо хоць на забаву прыйшло моладзі многа, але пераважна ўся была „падхмелена", а ведама, дзе толькі гарэлка, там найчасьцей трашчаць лабы. Так было і ў нас. Спачатку паўстала спрэчка, а пасьля і „мордаплясканьне", а пры тым лаянка з апошніх слоў, ад каторых вушы вянулі. І гэта ўсё было ў прысутнасьці дзяўчат, якія таксама чамусьці не сабраліся ды ня вышлі з хаты, а сядзелі ды слухалі.

Вось да чаго даводзіць гарэлка! Шчырак.

**Ад Рэдакцыі.** Гэтыя дзьве карэспандэнцыі дасканальна гавораць, як шкоднай ёсьць для нашай моладзі гарэлка, якую за ўсякую цану трэба выводзіць з жыцьця. Выводзіць трэба так-жа з жыцьця і самагонку, якая бурыць гаспадаркі нашых сялян і за якую столькі людзей сядзіць за кратамі. Замест гарэлкі трэба ўсім брацца за кніжку і за культурна-асьветную працу, бо інакш сумная чакае нас доля.

* * *

Minie zima; viasna nadydzie,
U poli kvietki zaćvituć,
Dzie siońnia bura ŭściaž bušuje —
Viasioły pieśni zahuduć.

I tam, dzie siońnia hora, smutak,
Praklony ciažkija visiać —
Ščaślivy dzień dla ŭnukaŭ našych,
Praz ich, braty, užo vidać.

*Małady Dubok.*

# Выступленьні беларусаў у Маскоўскім радыё.

6 лютага сёлета, маскоўскае радыё ў працягу гадзіны надавала аўдыцыю п. н. „Музыка і літаратура Беларусі“. Выступалі: старшыня Беларускай Акадэміі Навук у Менску П. Горын, беларускія народныя паэты: Якуб Колас і Янка Купала, кампазытар Аладаў, цымбаліст Ждановіч, сьпявачка Клімава і струнны квартэт.

П. Горын прачытаў статыстыку беларускіх культурных установаў на 1.I.1935, паводле якой у БССР ёсьць 7105 бел. пачатковых школ з 25,000 вучыцялёў, 18 вышэйшых школ, 79 тэхнікумаў, 35 рабфакаў і 17 рабзавучаў. Беларуская Акадэмія Навук у Менску выдала ў 1934 г. 170 монографіяў і цяпер рыхтуе да выданьня беларускую энцыклёпэдыю з 12 тамоў. Пры Б.А.Н. ёсьць 30 навукова-дасьледчых інстытутаў.

Я. Колас гаварыў аб беларускай літаратуры вельмі мала. Пры тым прачытаў два вершы, з якіх адзін п. н. „Савецкім авіятарам“.

Пасьля Клімава выканала вельмі слаба калхозную песьню, а Ждановіч добра і чыста адыграў на цымбалах „Песьню 2-гой беларускай дывізіі“.

Я. Купала гаварыў цяжкім і разьбітым голасам і ў прамове яго кожны бадай сказ пачынаўся: „Я шчасьлівы, што жыву ў СССР і што Беларусь увайшла ў склад гэтага хаўрусу. Я шчасьлівы, што межы Беларусі бароніць армія Варашылава“ і г. д. Аб Зах. Беларусі Купала нават ня ўспомніў. У канцы прачытаў два вершы: „Зьезд Саветаў“ і „Выпраўляла маці сына“. Абодва гэтыя вершы пераклаў на расейскую мову і прачытаў пасьля прамовы Купалы С. Горадзецкі.

Квартэт Аладава „Новае і старое“ быў вельмі добры. Апёрты ён на мэлёдыі „Ой ляцелі гусі“, якая праходзіць праз увесь гэты твор, змагаючыся з мэлёдыяй частушкі „безпрызорных“, а перамогшы яе пераходзе ў паважны мажор, якім канчаецца.

Усе прамовы былі ў мове расейскай, а вершы і песьні—пабеларуску. Прамова Купалы рабіла, вельмі цяжкае ўражаньне і слухаючы яе ды знаючы Купалу проста плакаць хацелася, бо й да чаго сапраўды наш Янка дайшоў.

**Т. Т.**

**Ад Рэдакцыі.** Гэтае кароценькае апісаньне выступленьняў беларусаў у маскоўскім радыё атрымалі мы з заграніцы ад аднаго з старэйшых беларускіх дзеячоў, каторы жывучы крыху бліжэй як мы ад Масквы, меў магчымасьць слухаць іх па радыё. Паважаны аўтор знае асабіста Янку Купалу з ранейшых яшчэ часоў і дзеля гэтага яму вельмі

трудна было пагадзіцца з зьместам яго прамовы. Чулі прамову Купалы, а так-жа і іншыя выступленьні некаторыя беларусы ў Зах. Беларусі, і на іх яна зрабіла так-жа прыгнятаючае ўражаньне.

Статыстыка беларускіх культурных установ на вонкі выглядае вельмі прыгожа. Ведама аднак, што ўстановы гэтыя не прычыніліся дзеля палепшаньня быту беларускага народу, які церпіць усьцяж недастатак хлеба. Ды агулам установы гэтыя служаць пераважна для справы не беларускае, а зьяўляюцца агітпунктамі маскоўскага камунізму, які ўсё, што беларускае, нішчыць і разбурае. Пацяшаючым аднак зьяўляецца зьявішча, што ўсёж-такі праз гэтыя-ж культурныя ўстановы ня ў той, дык у іншы спосаб пашыраецца беларускасьць.

---

# Najsłaŭniejšyja sučasnyja padarožniki.

## Sven Hedin, Byrd i Otto Šmidt.

19 lutaha sioleta skončyŭ 70 hadoŭ svajho žyćcia słaŭny na ŭvieś śviet švedzki padarožnik Sven Hedin. Hety niaŭtomny pracaŭnik navuki abjaždžaŭ i apisvaŭ usie tyja krai, dzie jašče nikoli nia była naha cyvilizavanaha čałavieka. Praca Sven Hedin'a dla navuki maje ahramadnaje značennie, a apisańni jaho padarožaŭ vydany ŭžo badaj ŭva ŭsich eŭropejskich movach. Imia hetaha vučonaha nia mała pryniasło i prynosić słavy Švecyi, jakaja ŭračysta śviatkavała 70-ja ŭhodki jaho žyćcia biez jaho, bo jon, pamima svajho starčaha vieku, dalej pracuje paza hranicami svajej baćkaŭščyny na zaniataj pazycyi.

Nia mienš badaj słaŭnym ad Sven Hedin'a sučasnym vučonym padarožnikam źjaŭlajecca amerykanski admirał Byrd, jaki 17 lutaha sioleta viarnuŭsia ŭ Ameryku z 3-ch hadovaj navukovaj padarožy na paŭdniovy polus, dzie, jak my ŭžo pisali, zrabiŭ novyja adkryćci. Hety čałaviek, jak raskazvajuć jahonyja supracoŭniki, apošnim časam vykazaŭ niabyvała silnuju volu i hart ducha. Jon budučy sam adzinokim, da taho jašče chvorym, pieranosiŭ 60° marazy i stała zapisvaŭ svaje i svaich aparataŭ spaściarohi, ciarpliva čakajučy, až pokul da jaho nia pryjeduć jahonyja tavaryšy i nie zabiaruć u svoj aboz. Byrd nia raz dumaŭ, što voś-voś užo zahinie, nia klikaŭ adnak pomačy, choć moh heta rabić, kali tolki chacieŭ, bo škadavaŭ kab ludzi nie pahinuli śpiašajučysia jamu na pomač. Bajaŭsia-ž Byrd, adnaho tolki. kab siedziačy tak u svajej abservatoryi siarod śniahoŭ nie zvarjacieć.

Dyk nia dziva, što hetym čałaviekam chvalicca ŭsia Ameryka. Treba adnak skazać, što nia tolki Ameryka i Švecyja mohuć chvalicca svaimi padarožnikami, ale mohuć heta zrabić i biełarusy. Bo voś akazvajecca, što słaŭny kiraŭnik vie-

damaje savieckaje ekspedycyi na paŭnončy polus na karabli „Čeluskin“, praf. Otto Šmidt zaličaje siabie da biełarusaŭ. Zajaviŭ jon ab hetym 19 žniŭnia 1934 h. na źjeździe piśmiennikaŭ SSRR, dzie svaju pryvitalnuju pramovu pačaŭ tak:

„Ja tut nie pradstaŭlaju litaratury jakoj-niebudź respubliki, ale jak *biełarus* (Kursyŭ — r e d), ja vystupaju paśla pradstaŭnika litaratury Savieckaj Biełarusi“.

Jak viedama karabiel «Čeluskin» raźbiŭsia i patanuŭ, ale pasažyry jaho, na čale z praf. O. Šmidt'am, z usimi navukovymi pryładami, apynuŭšysia paśla hetaha na lodzie, usie byli vyratavany. Praf. O. Šmidt, pływajučy na „Čeluskinie“ i paśla na lodzie, chvarejučy navat, vioŭ uściaž zapiski svaich spaściarohaŭ cennych dla navuki.



Tak adbyvajecca padarož̌a ŭ horach.

Na zakančeńnie varta ŭspomnić, što viedamy niamiecki padarožnik pa horach Ervin Schneider (čytaj — Šnajder) dumaje ŭ chutkim časie ŭzyjści na najvyšejšyja punkty najvyšejšych horaŭ na śviecie Himałajaŭ u Azii. Padaroža heta nia lohkaja, niekatoryja jaje mamenty mahčyma buduć vyhladać tak, jak pakazana padaroža ŭ horach na padadzienym vyšej malunku. *j. n.*

# Pry śmierci.

Dziamian D., rosły dziaciuk, hadoŭ 25, choć byŭ čałaviekam spakojnym, ale i jamu zdaryłasia pryhoda, jakuju varta apisać.

Było heta na Siomuchu. Usia pryroda ćviła i krasavałasia. Viesialiŭsia taksama i Dziamian. Ale voś pa zachadzie sonca pačuŭ jon niešta vielmi drennaje ŭ žyvacie: jak-by tam chto kałody varočaŭ, u horle tak piakło, byccam jamu chto žmieniu piercu tudy ŭsypaŭ, a ŭ žyvacie—jak sto vaŭkoŭ vyła. Słovam, kiepska pačuŭsia Dziamian: loh u paściel i pačaŭ mocna stahnać z bolu. Na hety stohn żbiehlisia svajaki i susiedzi, i z pierapužanymi minami pryhladalisia da Dziamiana. Ažno niechta kaža: „Jon pry śmierci". Słovy hetyja tak mocna padziejali na prysutnych, što ŭsie spravili kryk, jenk i płač. Vidać, što z hetaha ŭsiaho niešta dalacieła i da vušej Dziamiana, bo kali krychu pierastali kryčać, jon paciahnuŭsia i prašaptaŭ:

—Trudnieńka mnie...darujcie usio...dajcie śviečku...kanaju...

Schamianulisia ŭsie i jašče macniej zahałasili, adna tolki salatorka Viktarycha, jakaja nie pry adnej śmierci była, nia zhubiła hałavy. Pryniasła jana metrovuju śviečku-hramnicu, taŭščyni z taparyšča i zapaliŭšy dała jaje Dziamianu ŭ ruku. U chacie stała cicha i tolki čutny byli ŭschlipy płačučych, stohny Dziamiana i hołas Viktarychi, jakaja nałažyŭšy rażbityja akulary ŭ hołas čytała pryśmiertnyja malitvy. Paśla pačała litanija za ščaślivuju śmierć, a ŭsie choram adkazvali: Zžalsia nad im, Boža! Kali-ž salatorka vyhavarvała: „Kab z złymi duchami nie siadzieŭ u piekle", z hukam vyvaliłasia z ruki Dziamiana śviečka. Žančyny kinulisia z płačam da jaho, a toj paviarnuŭšysia viaknuŭ i prabarmataŭ: -- ruka zabaleła.

Usich aharnuŭ strach,a Viktarycha,kivajučy hałavoju,havaryła:

— Z trudnaści, biednieńki... Viečny jamu supakoj...

— Śviečku treba dać, śviečku — zakryčała niekalki hałasoŭ, — bo pamreć tak.

— Nie davajcie śviečki, bo sapraŭdy jašče pamre, — adazvaŭsia niechta.

Baby pahladzieli kosym vokam ŭ staranu złosnaha hołasu, ale nichto minaj nie pryznavaŭsia da skazanaha.

Viktarycha, trymajučy hramnicu, šaptała dalej niejkija malitvy, inšyja prysutnyja stajali prybityja horam i žałaściaj. Tymčasam Dziamian jašče raz paviarnuŭsia, adryhnuŭsia i zabarmataŭ: — Jaśka... daj butelku... apošniuju... Usie achnuli, a Viktarycha ŭ hołas:—Jaśka, chutčej pryniasi śvianconuju vadu!— Plačysty chłapiec pracisnuŭsia praz taŭpu i pabieh, a Viktarycha ciahnuła dalej:

— Śvianconaja vadzica —heta apošni ratunak ad usiaho złoha. Boskaja vola nia ŭsim adnu śmiarotku—matku dajeć, adny, jak-by zasynali—pamirajuć, a druhija mučajucca i ŭ latarh zapadajuć (doŭhi son). Usie my ludzi hrešnyja...

Kanajučy paciahnuŭsia i zakraktaŭ. Tymčasam prybieh Jaśka sa śvianconaj vadoj. Viktarycha vyciahnuła zubami lannuju zatyčku i, trymajučy ŭ adnej ruce śviečku, druhoj pačała śvieńcić z butelki. Chvory ŭzvaruchnuŭsia i kaža chrypliva:

— Trudnieńka... sieści chaču...

Da łožka padskočyŭ Jaśka i, paddzieržvajučy Dziamiana za plečy, pasadziŭ jaho. Viktarycha dała chvoramu paciahnuć z butelki śvianconaj vady. Dziamian jak tolki paciahnuŭ, dyk i „pajechaŭ u Ryhu". Usie jašče bolš pierapužalisia, a Viktarycha skazała: — Pierad śmierciaj u inšych i hetak byvaje.

Paśla kazłoŭ Dziamian abamleŭ i źłoh biaz pamiaci. Ludzi pačali radzicca, a Viktarycha zakončyła:

— Biednieńkamu pieraškodzili złyja duchi skanać, dyk jon upaŭ u latarh; treba kab ksiondz pamaliŭsia i paśvienciŭ krapidłam. — Usie na heta zhadzilisia, pasłali pa ksiandza, dy pačali pavoli raschodzicca.

Dziamian spaŭ, jak zabity, nad im Viktarycha čytała malitvy, a ŭ kucie horka płakała jaho siastra.

Praz dźvie hadziny pryjechaŭ ksiondz. Syšłasia ŭsia vakolica. Ksiondz adnak zamiest taho, kab malicca, staŭ Dziamiana tuzać i dapytyvać:

— Ad čaho tabie, čałavieča? Dzie ty nabraŭsia niepaludzku?

Chvory zrazumieŭ, vidać, hutarku i ściamiŭ, chto jaho pytaje, dyk adkazaŭ:

— U Kaściučychi vypili... try butelki hary...

Słovy hetyja, jak abuchom u łob uderyli prysutnych, nia vyklučajučy Viktarychi. Ksiondz zahadaŭ dać chvoramu zban kisłaha małaka, a sam davaj navučać narod. Najbolš dastałasia salatorcy, bo chto najbolš dzieić, toj najbolš i adkazvaje.

Dziamian praspaŭ noč, sadraŭ sa try kazły i pajechaŭ u les. Jak jamu raskazvali, što z im i kala jaho dzieiłasia, dyk kivaŭ hałavoj i havaryŭ:

— Kab jaje piarun, što heta samahonka sa mnoj zrabiła.

*J. M.*

## MAJO BAHACTVA.

La darohi nizka chata
I małaja i nie bahata,
Aharodčyk prad vakoncam
I sadočak prad humioncam.

Biedna chata, ale čysta,
Ŭsio u joj bliščyć ahnista:
I zasłana i prybrana,
Šafa knižkami zapchana...

Viera baćki, matki mova —
Voś dabra majho pałova,
A druhaja pałavina —
Biełaruskaja Ajčyna.

*A. Śpirydovič.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Суд і канфіскаты.** — 30.I сёлета Віленскі Гарадзкі Суд засудзіў рэдактара „Новага Шляху“ грам. Ул. Казлоўскага на 3 тыдні арышту і 100 зал. штрафу за зьмяшчэньне ў № 4(6) „Новага Шляху“ артыкулаў, якія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі. — 19 г. м. Віл. Гарадзкое Стараства сканфіскавала беларускі літаратурна-навуковы часапіс „Калосьсе,“ кніжку 1. — 22 г. м. тое ж самае Стараства сканфіскавала „Беларускую Крыніцу“ № 9.

**БІГіК.** Віл. Аддзел Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры 4 сакавіка сёлета ладзіць у залі Інстытуту запусты. У праграме: бліны з верашчакай, канцэрт і агульныя скокі.—5 сакавіка адбудзецца агульны гадавы сход Віл. Аддзелу БІГіК.

**Праца над чысьцінёй беларускага языка.** Парушаная ў свой час у Вільні справа працы над чысьцінёй беларускага языка знайшла вельмі прыхільны водгук сярод беларускіх літаратараў і публіцыстаў, якія ахвотна згадзіліся ў гэтым кірунку працаваць з бел. філёлёгамі. Дзеля гэтага адбылося ўжо некалькі прыватных зборак, каторыя далі ўжо канкрэтныя плады, якія хутка будуць паданы да агульнага ведама. Далей зборкі маюць адбывацца стала, што другі панядзелак увечары.

**Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы.** 10 і 17 лютага ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце мгр. Ст. Станкевіч чытаў лекцыю на тэму „Беларускі фольклёрыстычны элемэнт у балядах А. Міцкевіча“. — 24 лютага адбыўся агульны гадавы сход гэтага Т-ва, на якім пасьля справаздачы старога ўраду і прызнаньня абсолюторыюму, выбрана новы ўрад і рэвізыйная камісія. У ўрад увайшлі: студ студ. В. Тумаш — старшыня, А. Махонька — віцэстаршыня, П. Засім—сэкрэтар, Т. Мацьвеявічанка—скарбнік і І. Будзьчанка — вольны сябра, а ў рэвізыйную камісію: студ. студ. В. Войтанка, М. Шчорс і Я. Бурак. — У хуткім часе Т-ва Прыяц. Беларусаведы мае выдаць «Дыялектолёгічны апытальнік“.

**ТБШ.** 15 лютага сёлета ў Сьвіслачы, Ваўкавыскага пав., тамашні Гурток Т-ва Беларускай Школы ладзіў вечарыну у часе якой было беларускае прадстаўленьне і выступаў хор.

**БСС.** — 23.II у Бел. Студ. Саюзе адбылася лекцыя студ. П. Засіма на тэму: „Раздрабненьне зямельных гаспадарак на Віленшчыне“. — 2-га сакавіка сёлета БСС разам з Літоўскім і Украінскім Студэнскімі Саюзамі ладзіць у залі Консэрваторыі ў Вільні VI-ты традыцыйны супольны баль.

**Пчалярская вечарына і „Беларуская Борць“.** 3-га сакавіка рэд. „Бел. Борці“ ладзіць у залі Літ. Студ. Саюзу пчалярскую вечарыну. — № 1-2 час. „Беларускае Борці“ за м цы студзень і люты вышаў з друку, разьмер 16 бачын $8^0$; выданы ён ужо друкарскім спосабам.

**Скаўты ў Беларускай Гімназіі ў Вільні.** У Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні апошнім часам робяцца захады, каб пры Віл. Аддзеле Польскіх Скаўтаў сарганізаваць аўтаномную хлапцоўскую дружыну беларускіх скаўтаў.

**Новая п'еса М. Машары.** На днях М. Машара прыслаў у Рэд. „Шляху Мол.“ новую п'есу — камэдыю ў 1 акце п. н. „Чорт з падпеччы“. П'еса невялікая і прыгодная на вясковую сцэну. Дзеля гэтага робяцца захады, каб выдаць яе друкам.

**Чуткі аб расстраляньні Бр. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і І. Дварчаніна.** Нядаўна мясцовая і загранічная прэса падала весткі, паводле якіх б. бел. паслы: Бр. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі і І. Дварчанін, якія апынуліся ў СССР, — расстраляны. Вестка аб расстраляньні Бр. Тарашкевіча аказалася няправільнай, бо запярэчылі яе: жонка Тарашкевіча і савецкае агенства ТАСС. Аб С. Рак-Міхайлоўскім і І. Дварчаніне ТАСС нічога не ўспамінае, такім чынам прыходзіцца вестку аб расстраляньні іх лічыць праўдзівай.

**Беларусы ў Літве.** Беларускае жыцьцё ў Літве апошнім часам ажывіла некалькі беларускіх спэктакляў, якія ладзіў Беларускі Народны Тэатр у Коўне і на вёсцы, а так-жа супольныя беларуска-літоўска-украінскія вечары, якія адбыліся ў «Беларускай Хатцы». 24 лютага сёлета ў Коўне адбыўся зьезд Беларускага Культурна-Прасьветнага Т-ва і Нацыянальнай Сувязі Беларусаў у Літве.

**Беларусы ў Латвіі.** Палажэньне Беларусаў у Латвіі не палепшала і да дабра ня йдзе. Вінаваты ў гэтым і „свае“ ўгадоўцы, на чале з П. Журкоўскім, які пасьля ліквідацыі Беларускага Аддзелу пры Мін. Асьветы назначаны рэфэрэнтам для беларускіх спраў, пры Мін. Асьветы і пры Міністэрстве Унутраных Спраў і М. Дзямідаў, які таксама стараецца як найлепш прыслужыцца для латыскіх нацыяналістаў. Нам пішуць, што П. Журкоўскі робіць для беларускае справы вельмі вялікія падрывы. Гэты скампрамітаваны і выкінуты з ураду Т-ва Беларускае Моладзі чалавек бярэцца за ўсё і перад нічым не застанаўляецца

**Беларусы ў Чэхаславаччыньне.** Апошнім часам у Чэхаславаччыне заўважваецца зацікаўленьне беларускай справай. Некаторыя чэхаславацкія арганізацыі ладзілі лекцыі спэцыяльна прысьвячаныя беларускай справе. Нядаўна пачаў у Празе выходзіць часапіс „Slovanská Revue“, у якім падаюцца весткі і з беларускага жыцьця.

# Usiačyna.

**Pierastajuć kuryć.** U Polščy apošnimča sam zaŭvažvajecca, što ludzi što-raz mienš kurać i što-raz mienš karystajucca siernikami. Tak naprykład, kali ŭ 1932 h. pradana tytunu na 552.519 zał., dyk u 1934 h. užo na 478,481 zał. Zapałkaŭ (siernikaŭ) u 1932 h. pradana 107 tysiač skryń, a ŭ 1934 h. 82 skryni.

**Dunikoŭski robić zołata.** Palak Dunikoŭski, jaki ciapier žyvie ŭ Francyi, vydamaŭ byccam taki aparat, pry pomačy jakoha z niekatorych słajoŭ ziamli dastaje zołata. Da hetaha vynachadu, mnohija adnak adnosiacca z niedavieram, bo Dunikoŭski ŭžo raz byŭ zasudžany francuskim sudom na 2 hady vastrohu za niedatrymańnie dahavoru z ludźmi, jakija davali hrošy na jahony vynachad, katory adnak paśla nikomu nijakaj karyści nia daŭ i pry pomačy jakoha ŭsiož-taki zołata nie ŭdałosia dastać.

**Kolki ludziej zabivajuć samachody?** Pavodle palicyjnaje statystyki ŭ minułym hodzie ŭ Złučanych Stanach Paŭnočnaje Ameryki było 36 tysiač samachodavych vypadkaŭ, z pryčyny jakich što 15 minut adna asoba była zabita, a što 31 chvilina adna asoba raniena.

**Možna čytać z zažmuranymi vačyma.** Hazety pišuć, što niejki Kanadyjski vučony vydumaŭ aparat, pry pomačy jakoha možna čytać zažmuryŭšy vočy.

**Katastrofa ciahnikoŭ u SSRR.** 11 lutaha na razanska-ŭralskaj čyhuncy ŭ SSRR zdaryłasia katastrofa ciahnikoŭ u časie jakoj zhinuła 18 asob.

**25 miljonaŭ nieskolektyvizavanych sialan u SSRR.** Pavodle pramovy kamisara Jakoŭleva na kanhrasie „ŭdarnikaŭ" kolektyvaŭ u Maskvie, u SSRR jość jašče nie skolektyvizavanych 5.000.000 haspadarak z 25.000.000 sialan.

**Japonskaja bura prybližajecca da Savietaŭ.** Paśla taho, jak Japoncy ŭtvaryli novuju dziaržavu „Mandžuko" na ŭschodzie i adkupili ad balšavikoŭ za 1/4 naležnaj sumy ŭschodniuju syberyjskuju čyhunku, pačali tvaryć i novuju „niezaležnuju" dziaržavu ŭ Uschodnim (kitajskim) Turkiestanie. Novaja dziaržava biespasiaredna budzie hraničycca z balšavickim Turkiestanam i pasłužyć Japoncam jak apora tyłoŭ u budučaj vajnie. Balšaviki hetym vielmi ŭstryvožany i chto viedaje, ci nie „pradaduć" jany Japonii i častku Sibiry za 1/4 naležnaj sumy, jak heta zrabili z Uschodniaj čyhunkaj.

Niachaj-by tolki ŭsio rabili pa „ŭdarnicku".

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Маладому Дубку. Пісьмо і матар'ялы атрымалі, просьбу часткова спаўняем, рэшта будзе ў пісьме, якое незадоўга пастараемся напісаць.

J. Pitušcy. „Šl. Mol." Vam vysyłajem i vysyłali akuratna, damahajciesia na pošcie. Patrebnyja Vam numary našaje časapisi vyšlem.

Ю. Сяргіевічу. Матар'ялы і падпіску атрымалі, дзякуем. Думка аб прапагаваньні таварыскіх гульняў добрая і мы пастараемся ёю заняцца крыху бліжэй, можа нават у наступным нумары. Дзеля гэтага просім далей прысылаць нам з гэтай галіны матар'ялы. Просім так-жа прысылаць свае літаратурныя творы.

P. Łastaŭcy. Padpisku atrymali, dziakujem, prośbu spoŭnili. Prosim prysyłać nam svaje tvory.

Р. Антусе. Вершы зусім слабыя і да друку не падходзяць, радзім Вам іх ня пісаць, а больш заняцца перад усім самаасьветай.

А. Жуку. Вершы атрымалі, па магчымасьці будзем карыстаць, прэмію вышлем.

Š. Łabatamu. Vašy tvory, jak drama tak i vieršy, słabyja. Radzim bolš čytać biełaruskich knižak, paznać biełaruski pravapis, hramatyku i pačynać pisać ad karespandencyjaŭ, abo ad karotkich apaviadańniaŭ prozaj.

P. Ramančuku. Pytajeciesia ci varta Vam dalej pisać? Voś-ža možacie pisać, ale pišycie samastojna i koratka, dy bolš čytajcie. Z tych vieršaŭ, jakija Vy dasiul nam prysłali, trudna što-niebudź vybrać, bo ŭsio vieimi słaboje.

В. Хомко, М. Даў—новы і Я. Кавальчуку. Вершы слабыя, больш працуйце над імі і над сабой!

Lavonu Sumnamu. Ščyra dziakujem za padtrymańnie i prośbu spaŭniajem dahetul adnak nia možam paznać, chto Vy, a chaciełasia-b hetu zahadku ŭžo razhadać.

Bradanu. Za krucihałoŭki dziakujem, skarystajem, prośbu spoŭnili.

---

## КУТОК РАЗРЫВАК.

### Разьвязаньне круцігалоўкі № 7.

ЯНАЧКА
АСНОВА
КРАКАЎ
КВАКАЯ
ПРАДАЎ
ПЯСЬНЯР

### Разгадка загадкі № 4 — літара s.

Нагароды: 1) за разьвязаньне круцігалоўкі № 7— „Гісторыя Беларусі"—У. Ігнатоўскага—прыпала грам. Я. Юношы, 2) за разгаданьня загадкі № 4 зборнік вершаў Міхася Машары „На сонечны бераг" — Я. Гіньку.

### Арытматычная загадка № 5 *падаў І. М.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |

У паданыя 16 клетачак упісаць цыфры ад 1 да 16 так, каб дадаючы іх уніз, ўшыркі і наукаскі выходзіла сума 34.

# Літаратурны Конкурс „Шл. Мол.“

Маючы наўвеце разьвіцьцё беларускай мастацкай працы, Рэдакцыя „Шляху Моладзі“ абвяшчае конкурс на найлепшае апавяданьне з беларускага сучаснага жыцьця ў Заходняй Беларусі. Апавяданьне мусіць быць нідзе недрукованае й мець арыгінальны сюжэт (зьмест). Павінна яно быць напісанае прозай, прыгожай беларускай мовай, мець харошыстыль і ўсе артыстычныя асаблівасьці мастацкага твору. Вялічыня апавяданьня — неабмежаная. Тэмай апавяданьня можа быць: 1) фрагмэнт з сучаснага жыцьця беларускае вёскі, 2) інтэлігенцыі, або 3) вёскі і інтэлігенцыі разам.

За прынятыя конкурсам апавяданьні Рэдакцыя ўстанаўляе тры нагароды, якія будуць выплачывацца беларускімі кніжкамі, выбранымі самым аўторам паводле каталёгу Беларускае Кнігарні „Пагоня“ ў Вільні на суму, роўную прызнанай нагародзе. **Першая нагарода выносіць — 50 зал., другая — 30 зал., трэцяя — 20 зал.**

Добра напісаныя апавяданьні, а неабнятыя грашовай нагародай, будуць адзначаны на бачынах „Шляху Моладзі“, як творы лепшыя і пры першай магчымасьці надрукаваныя.

**Апошні тэрмін прысыланьня апавяданьняў для конкурсу — 15 траўня 1935 г.** Прысылаць просім у запячатаным лісьце з напісам на канвэрце „Для Конкурсу“ і падпісываць спэцыяльна выбраным, нікому нязнаным псэўдонімам. Псэўдонімы аўтораў прынятых конкурсам апавяданьняў будуць абвешчаны ў прэсе і толькі тады аўтор апавяданьня выявіць сваё запраўднае прозьвішча і адрас, каб можна было пераслаць яму прызнаную нагароду. Паведамляючы аб сваім псэўдоніме, аўторы павінны падаць назоў і кароткі зьмест свайго апавяданьня.

У Конкурсовы Суд Рэдакцыя запрашае некулькі асобаў, найбольш компэтэнтных у літаратурных пытаньнях, якія будуць ацэніваць прысланыя творы. З сяброў Рэдакцыі „Шляху Моладзі“ да суду ніхто належыць ня будзе. Адзін і той самы аўтор можа прыслаць для конкурсу некалькі апавяданьняў, але ўсе яны мусяць быць падпісаны адным псэўдонімам.

Нагароджаныя конкурсам апавяданьні будуць друкавацца ў „Шляху Моладзі“, або ў іншым беларускім часапісе, калі разьмер апавяданьня будзе для „Шляху Моладзі“ за вялікі. Гэта-ж самае тычыцца лепшых апавяданьняў, не нагароджаных конкурсам.

*Рэдакцыя.*

---

*Грамадзяне! пасьпяшайцеся з прысыланьнем падпіскі для „Шляху Моладзі“ на 1935 г. бо хто гэтага ня зробіць, той можа ўжо неатрымаць наступнага нумару!*